Цана 40 пф.

# НАША ЗЯМЛЯ.

Двухтыднёвая
часопісь.

№ 2.

Сьнежэнь 1920 г.

Адрэс: Коўна, вул. Міцкевіча, 13-а

Друкарня Бр. Гурвіч, Коўна,
вул. 16 Лютага, № 2.

# КУДЫ ЙДЗЁМ.

Нарэшце і мы дачакаліся ўласнай бацькаўшчыны—Незалежнае Літвы. Ужо маем Устаноўчы Сойм, сваю Ўладу, сваё самаўпраўленьне. А адкуль гэта усё прышло, хто нам даў права незалежнасьці, хто пазволіў выбраць Устаноўчы Сойм, устанавіць сваю Уладу, сваё самаўпраўленьне? Гэтак нядаўна яшчэ ўпраўлялі намі маскалі, немцы і польскія паны—абшарнікі цераз сваіх чыноўнікаў. Яшчэ так нядаўна мы мусілі ўвесь свой цяжка запрацаваны здабытак пхаць у бяздоннае горла ненасытных паноў, пакідаючы сабе навет ня столькі, каб не ўмярці ад голаду, а столькі, сколькі можна было схаваць. Калі ня добра было схована, ды апошні кавалак хлеба вырывалі з нашых ртоў.

Ніхто нам гэтых правоў ня даў. Такіх прыяцелёў не знайшлося пад сонцам. Гэтыя правы для свае бацькаўшчыны здабыў сабе з аружжам у руках працоўны люд Літвы, ратаі і ўсе пагарджаныя.

Яны не хацелі, каб Літоўская зямля, столькі вякоў паліваная іх кроўю і потам, і надалей заставалася ў руках рожных дармаедаў, эксплуататараў і здрайцаў свае бацькаўшчыны. Працоўны люд ужо ня хоча быць надалей нявольнікам і працаваць на паноў. І вось, хапіла новаўтворанай Літоўскай Улады кінуць на родныя вёскі і палеткі пачуцьці абароны свае бацькаўшчыны, свае зямлі, свае волі, зрухнуўся люд працоўны і ўсе шкадуючыя сваю бацькаўшчыну, як хвалі марскія паплылі пад падняты Літоўскі штандар. Ваякі ня мелі сучаснага аружжа, ня мелі сьвядомых камандзераў, але ў іх сэрцах цякла гарачая літасьць да свае зямлі, а ў грудзёх—вялікая ахвота і жаданьне здалець або памерці. Гэтае жаданьне людцоў бараніць сваю ўласную зямлю, ўласнае вогнішча, зьнішчылі жалезныя палкі немцаў і бальшаві-

коў, перад ім таксама таюць, як сьнег вясной, кінутыя на нас польскімі панамі легіёны. Ніякая моц пад сонцам, ніякія высілкі паноў ужо не адбяруць ад нас нашай зямлі, нашай волі, нашай незалежнай бацькаўшчыны.

Скінуўшы ярмо абшарнікаў, выбіраем свой Устаноўчы Сойм і творым Уладу з людзей працавітых. Гэткім парадкам абабраны Сойм і Улада ня можа не бараніць інтарэсаў працы, ня можа не бараніць яго зямлі—карміцелькі ад панскага грабежу. Таксама патроху, крок—за крокам, адбіраецца ад абшарнікаў зямля, загорнянае калісь імі багацьце Літвы і раздаецца ўсё гэта праўдзівым іх уласьнікам—земляробам Літвы.

Хоць бягуча кінем вокам, якія дагэтуль Устаноўчым Соймам агалошаны уставы, маючыя на мэце палепшаньне быту земляробаў.

Каб збавіцца ад безрабоціцы па прычыне труднасьці знайсьці працу, агалошан устаў, які забараняе земляўласьнікам выдаляць парабкоў з маёнткаў. Таксама забаронена абшарнікам выдаляць арэндатароў з арэндуемых імі грунтаў.

Устаноўчы Сойм і Улада знаходзяць, што зямля можа належаць толькі таму, хто яе ў поце твару ўласнымі рукамі запрацуе. Цяпер Улада ўводзіць у жыцьцё сваі жаданьні. У першы чарод адабраны ад абшарнікаў грунт пачалі раздаваць абаронцам бацькаўшчыны і гэтай зямлі—вайсковым. Цяпер гэты Устаў пашыраны.

Працоўны Люд Літвы, зваяваўшы сваіх ворагаў—маскалёў, немцаў і палякоў—выгнаў іх з сваёй бацькаўшчыны. Разам з імі ўцяклі і іх спольнікі—абшарнікі Літвы. Устаноўчы Сойм пастанавіў забраць пакінутыя імі маемасьці пад сваю апеку і падзяліць іх паміж працаўнікамі.

Цяпер мы бачым, як клапаціцца аб працаўніках выбраны працоўнымі людзьмі Устаноўчы Сойм і пастаўленая ім Улада.

Не падабаецца гэта нашым абшарпікам, каторыя сядзяць у Варшаве, Парыжы і ў іншых зарубежных местах, кончаць трацiць запрацованыя ў поце твару нашымі працаўнікамі грошы і пеняцца ад злосьці, што балей дастаць ня могуць, кідаюць пяруны і маланкі на Незалежную Літву і яе Народны Урад. Але дарэмная праца. Літоўскі працоўны люд не спалохаецца вашых пяруноў і маланкаў і, дастаючы сабе справедлівасьць, пойдзе сваім шляхам да шчаслівейшага лепшага жыцьця, да сьветлай будучыны.

# ЯК АТРЫМАЦЬ ЗЯМЛЮ Ў АРЭНДУ?

Урад Літвы выдаў паміж іншымі распараджэньне з мэтай палегчэньня люднасьці, а найперш сялянам у атрыманьні зямлі ў арэнду. Ведама, што і перад гэтым можна было атрымаць ад першага лепшага земляўласьніка зямлю ў арэнду. Але такі абываталь, аддаючы зямлю ў арэнду, мог назначыць суму, якая яму падабаецца, па другое, толькі часам было можна атрымаць зямлю там, дзе арэндатар хацеў.

А каб прыйсьці людзям з дапамогаю, Урад наш з гэтай мэтай выдаў некольki распараджэньняў.

„Распараджэньне аб карыстаньні з зямлі праз прыватных уладароў"—выдано Устаноўчым Соймам 30 кастрычніка 1920 году.

Норма арэнды ўстаноўлена вышэйсказаным распараджэньнем ад пяці пудоў збожжа з дзесяціны з арэдуемай зямлі. Аднак пяць пудоў можа быць ўзята толькі ў выпадках выключных і то з найлепшай зямлі, якая знаходзіца блізка ад местааў.

У другіх выпадках арэнда ўзімаецца—паўпуда або пуд збожжа з дзесяціны, а з добрых грунтаў-да двух—трох пудоў збожжа.

Калі зямля ўзята ў арэнду незаможнымі сялянамі, то яны першыя гады могуць быць звольнены ад арэнднай платы.

Апрыч таго, арэндатарам часта выдаецца інвентар і насеньне на выплату ў многалетні срок.

Арэнда, апрыч таго, што выплачываецца збожжам, можа быць так сама пакрыта грашмі.

Тыя, каторыя бяруць зямлю ў арэнду больш чым на тры гады, могуць атрымаць права ставіць на зямле будынкі.

Распараджэньне запэўняе арэндатараў, што пастаўленыя імі будынкі ня будуць ад іх адабраны.

Калі дробны арэндатар дакажа сваей працай, што ён жадае і можа як належыць упраўляцца з атрыманай зямлёй і вясьці надаль гаспадарку, то ён у свой час можа быць пэўным, што з моманту выданьня распараджэньня агульнай зямельнай рэформы, зямля, на якой ён прыцуе, астанецца яго ўласнасьцю.

Да такіх арэндатараў, каторыя карыстаюцца зямельнымі палягчэньнямі, належаць тыя, якія арэндуюць усяго ня болей дваццаці дзесяцін (г. е. разам с той зямлей, якую яны мелі раней).

Іншыя, каторыя перад гэтым валадалі, напрыклад, пяцью дзесяцінамі, карыстаючыся палягчэньнямі, могуць заарэндаваць яшчэ да пятнаццаці дзесяцін, хто меў 12 дзесяц., заарэндаваць 8 дзесяц. і. г. д.

Каліб-б усе такія дробныя арэндатары атрымалі належны лік зямлі, а пад загадам Ураду ў якой-небудзь месцовасьці асталася яшчэ нязданая ў арэнду зямля, то гэта зямля можа быць здана ў арэндну замойжнейшым сялянам, але ўжо без ніякіх палягчэньняў.

Дробнымі арэндатарамі, аб якіх гаварылі вышэй, з'яўляюцца малазямельныя, якія маюць меней 20 дзесяц. зямлі, або беззямельныя, напрыклад: уладары дамоў без зямлі (халупнікі) або кватэранты, арэндатары дворныя і г. д.

Пры атрыманьні зямлі паводле сказаных варункаў важна выбраць зямлю ў адпавядаючым жаданьням месцы, каб было можна, як мы ўказалі, так упарадкаваць і збудаваць сваю гаспадарку, каб у будучыне, пры праведзеньні зямельнай рэформы, мець права астацца ўладаром гэтае зямлі.

Добра абдумаўшы сваё справы, трэба ў той час звярнуцца да поўнамочніка Міністэрства Земляробства ў сваім павеце беспасрэдна або праз валасныя ўлады.

Можа здарыцца і так, што ў якой-небудзь месцовасьці, дзе шмат мелкіх арэндатараў, каторыя хочуць узяць зямлю ў арэнду, а ў загадзе Міністэрства Земляробства не знаходзіцца ў дастатачным ліку пажаданай зямлі, або і зусім няма. У такім выпадку добра самому пайскаць, ці часам дзе—небудзь у пабліжу няма ў якім—колек двары зямлі, якая ляжыць адлогам. Аб такіх палёх выдано Соймам распараджэньне: „Закон, нарміруючы арэнду гаспадарак прыватных“ ад 27 ліпеня 1920 году. Гэта распараджэньне датычыцца земляўласьнікаў, маючых звыш 1000 дзесяцін.

Зямельная камісія мае права прымусова здаць у арэнду такія неапрацаваныя палі мелкім арэндатарам і на вельмі дагодных варунках. Зямля, якая ляжыць адлогам, здаецца ў арэнду бясплатна, толькі трэба аплаціць зямельны падатак; іншыя землі, якія сустрэчаюцца паміж адлогамі, знаходзяцца ў тых самым варунках, аб якіх было сказана.

Склад Зямельнай Комісіі такі: адзін прэдстаўнік ад Міністэрства Земляробства і два ад месцовага самаўраду.

Даведаўшыся аб такіх апушчаных землях і пры жаданьні атрымаць іх у арэнду, належыць аб гэтым певедаміць валаснoе праўленьне або паветавы ўрад ці поўнамочніка (Igalietinisa) Міністэрства Земляробства.

Гэтыя апошнія паатрымаьні такой заявы абавязаны зрабіць належныя крокі, каб указаная зямля была здана ў арэнду мелкім земляробам на вышэйсказаных варунках. Аб такіх землях, ляжачых без карыстаньня, ужо было гаворано ў № 1-м „Нашай Зямлі“ ў артыкуле „Што робяць Літоўскія Улады, каб парабкі і малазямельныя атрымалі зямлю.“

Перадача зямлі ў арэднду мелкім арэндатарам вельмі важная праца. Справа ў тым, што цяжка правесьць агульную зямельную рэформу ў найбліжэйшы час. Як-бы ні сьпяшыць, аднак пройдзе некалькі гадоў, пакуль жадаючы атрымае зямлю ва ўласнасьць.

А людзі, каторыя хацелі-б атрымаць зямлю, як найхудчэй, вельмі нецярплівы. Арэндуючы зямлю так, як вышэйпаказана, яны ўжо зараз атрымліваюць зямлю; па атрыманьні, калі яны ня будуць паражнаваць, а добра гаспадарыць, зямля не убяжыць, ад іх, і яны ў працягу колькі гадоў астануцца ўладарамі гэтай зямлі.

# Ураджай 1920 году у Літве.

Нашы суседзі лічаць землі Літвы невычэрпаемым сьвірнам. І нядзіва, што суседнія народы з усіх бакоў лезуць да нашага краю. Гэта самае ў нас цяпер с палякамі, каторыя якою ўгодна цаною хочуць заняць нашу бацкаўшчыну. Аднака-ж паглядзім, ці запраўды так ёсьць, як суседзі гавораць аб нас, ці запраўды „сьвіран" хлеба Літвы невычэрпаемы?

У час, калі нямецкія жандармы бадзяліся па Літве, як страшныя цені і рожныя акупанты (іх было так многа, што трудна навет запамятаць усіх імёны), Бог, здавалося, тварыў цуд, шкадуючы нас—кожны акупант здзіраў з гэтага „сьвірна", колькі хацеў—і ўсё-ж такі хапіла нашым гаспадаром ня толькі пракарміць свае сямейкі, але яшчэ яны маглі адважыць адзін ці два цэнтнары, і брату (латышу), і „брату", які так сам сябе называе (паляку), і бальшавіку, і усякаму, хто толькі ні зьвярнуўся да яго.-. Хапіла і на ўстройства балiку. Аднак-жа зямелька Літвы не перастае і надаль тварыць свае цуды, покі дзеці Літоўскай люднасьці на ёй жывуць. Літвіны—земляробы (іх каля 88 процэнтаў жыхароў цэлага краю) любяць родную зямельку і з ёю не разлучаюцца. Літвіны, як мурашкі ў поце твару працуюць на зямле і мазольнымі рукамі падымаюць яе паверхню, каб яна магла лепей адпачываць. Зямля—матка, якая заўсёды ў сто разоў аддзякуе тым, хто яе любіць, штогодна дае ўраджаі, каторых хапае ня толькі для сябе, але і для „гасьцей".

Пабачым, у якім становішчы ў гэтым гаду знаходзіцца наш „сьвіран". Тут бяру пад увагу частку Літвы, свабодную ад польскай акупацыі, якая складаецца з былай Ковенскай губэрні, каля $^3/_5$ Сувальскай (паўночная частка) і каля $^1/_8$ Віленскай губэрні—абшар зямлі, узяты агулам — да 4.700.000 дзесяцін і да 2.200.000 жыхароў.

Паводле вестак, атрыманых з разных бакоў, ураджай гэтага году не найлепшы, а мясцамі збожжо было навет слабое. Былі месца, дзе збожжо і лепей урадзіла, як у мінуўшым гаду. Азіміна ўрадзіла лепей, а ярына—горш.

Слабаваты ўраджай тлумачыцца тым, што зямля, хаця і апрацована тэю самаю стараннаю рукой Літвіна, але праз цэлы рад гадоў яна не даставала столькі гною, як даставала даўней. Прычынаю яшчэ было—брак вады: замала было

дажджу тагды, калі збожжо пачало красаваць і дасьпяваць, а замнога было пад час збору збожжа.

Занадта раннія маразы восені 1919 году так сама пашкодзілі і не далі азіміне добра выруніць. Галоўнаю прычынай нашага неўраджаю аднак-жа трэба лічыць выялавеньне раллі.

У часе вайны лік быдла ўсё паменшаўся, а ведама— менш быдла, меней гною. Нашай раллі патрэбна ня толькі добрая выраба, але і тлусты гной.

С прычыны паменшэньня ліку быдла, немагчыма было належным чынам вырабіць і ўгнаіць раллю. Да апошняга часу штучных гнаёў ня было відаць нігдзе, а калі й бывалі, то с прычыны надта падвышаных цэн немагчыма было іх купіць. Частка палёў засталася невырабленых і незасеяных, а таму ляжыць пад дзірваном. Калі зямля запушчана, то добрага ўраджаю чакаць ня можна. Толькі ў той час можна спадзевацца добрага ўраджаю, калі расьліна мае належныя варункі дзеля рошчы.

На працягу цэлага бягучага году не заўсёды меліся добрыя варункі, і таму мы не маглі чакаць лепшага ўраджаю.

Цяпер паўстае пытаньне: ці хопіць ураджаю гэтага году на пракармленьне жыхароў нашага Краю? Гэта пытаньне важнае, асабліва ў сучасны момант, калі на кожны наш кавалак хлеба згаладнеўшыя суседзі гладзяць, як на нейкую драгацэннасьць.

Пастараюся адказаць на гэта, хаця цяпер гэта ня лёгка бяз пэўных ведамак, атрыманых з усіх бакоў Літвы аб ураджаі бягучага году.

Увесь вышэйпаказаны абшар быў засеяны культурнымі расьлінамі, як—то: жытам, пшаніцай, ячменём, аўсом, гарохам, бульбаю, лёнам—каля 1.200.000 дзесяцін, гэта значэ, такі абшар зямлі, які мала меншы ад абшару, засеваўшагася да вайны. З іх каля 460.000 дзесяцін было засеяна жытам і 70000 дзесяцін—пшаніцай. Бяручы лік ураджаю больш—менш водлуг праўдзівых ведамак, можна сказаць, што атрымана каля 50—60 пудоў з дзесяціны жыта і да 60 пудоў пшаніцы, што дае агулам каля 26.000.000 пудоў ппаніцы. Па вылічэньні часткі збожжа, патрэбнага на пракорм (2.2000.000 жыхароў па 9 пудоў жыта ў год і паўтара пуды пшаніцы) і насеньня дзе-

ля засеву абшару, роўнага прошлагоднему, застанецца каля 1.000.000 пудоў жыта і да 9.000.000 пудоў пшаніцы.

Паводле тых самых ведамак спадзеемся сабраць ня меней 8.000.000 пудоў ячменю, ня меней 14.000.000 пудоў аўса, каля 50.000.000 бульбы, каля 3.000.000 пудоў гороху і да $1\frac{1}{2}$—2,000.000 пудоў ляннага несеньня. Прыняўшы пад увагу месцовыя патрэбы (пракорм людзей, жывёлы і насеньне), маем надзею, што ад гэтага збожжа сёе—тое астанецца, гэта значэ: каля 1—1.500.000 пудоў ячменю, 1—2.000.000 пудоў аўса, да 200.000 пудоў гороху, да 4—5.000.000 бульбы і звыш $\frac{1}{3}$ міліёну пудоў ляннага насеньня.

З вышэй сказанага бачым, што, бяручы агулам ураджай сярэдні, як найменшы, каторы можа быць ззабраны, усё такі маем дастатачна на пракорм людзей, жывёлы і на насеньне.

Каб мець больш збожжа на вываз, належала—б як наймацней і як найхутчэй спыніць спэкуляцыю.

Пры параўнаньні з ураджаем прошлага году можна падкрэсьліць, што ўраджай гэтага году слабшы, ніж у мінуўшым гаду, хаця абшар засеву далёка большы. Усё-ж такі можам сабе сказаць сьмела: калі ў прошлым гаду мы маглі пракарміць сябе і пры гэтым шмат збожжа адступілі суседзям, то і ў гэтым гаду нам яго стане.

# КАРЭСПАДЭНЦЫІ.

УЦЯНЫ. У Уцянскім павеце узята з вялікіх гаспадарак і двароў 1832, 89 дзесяцін зямлі з мэтай раздачы яе вайсковым.

Гэта земля мінуўшай вясной амаль уся распарцэлявана і падзеленыя абшары ўжо разданы вайсковым. Па надзеленьні найперш усяго вайсковых, зямля ў гэтым павеце будзе давацца беззямельным і малазямельным.

Кожны вайсковы, жадаючы зямлі, павінен звярнуцца да месцовага поўнамочніка Міністэрства Земляробства, предстаўляючы яму сваё пасведчаньне. У Уцянскім павеце з гэтаю мэтай запісалося ўжо каля 180 вайсковых.

Двароў або маёнткаў, знаходзячыхся пад загадам Міністэрства Земляробства, у Уцянскім павеце няма. Двароў, якія былі набыты пры вельмі палегчаных варунках і паводле распараджэньня ад 14 жніўня 1920 году, адыходзячых ва ўласнасьць гаспадарства, таксама мала. Наагул вялікіх двароў няма.

Адным з вялікшых двароў з'яуляюцца Уцяны с фальваркамі, налічаваючыя да 2000 дзесяцін. Зямля для вайсковых была брана з усіх двароў ў адным размеры, прыстасоўваючыся да прадажных нормаў, выключаючы тыя двары, якія былі пад польскай акупацыяй.

Людносьць надта жадае, каб абшары хутчэй былі падзелены на калёніі, але гэта жаданьне с прычыны часовага няхвату каморнікаў вельмі цяжка ў скорасьці споўніць, бо каморнікі ня могуць быць адарваны ад працы па раздзелу двароў.

Дзяржаўныя каморнікі здалелі размерыць два абшары: адзін у Ужпальскай воласьці, другі у Анікштскай воласьці.

Жадаючых разбіваць зямлю на калёні так многа, што гаспадары не шкадуюць навет вялікіх выдаткаў, наймаючы прыватных каморнікаў.

Прымаючы пад увагу, што праца прыватных каморнікаў нясе шмат труднасьцяў і с поваду іх працы бывае многа скаргаў і непаразуменьняў, Міністэрства Земляробства намерана забараніць прыватным каморнікам дзяліць зямлю без дазволу ўладаў на калёніі. У хуткім часе мае быць выдана з гэтай мэтай належнае распараджэньне.

РАКІШКІ. У Ракішскім павеце Урад забраў 18 прыватных двароў—агулам каля 3922 дзесяцін зямлі дзеля падзелу паміж вайсковымі.

З гэтых 18 двароў дзесяць ужо распарцэляваны, гэта значэ, каморнікі разбілі іх на абшары згодна ўстаноўленай норме.

Часовая Паветавая Камісія для надзелу зямлі вайсковым пачынае дзяліць абшары для беззямельных і малазямельных вайсковых паводле распараджэньня—„надзел зямлі вайсковым,“—выданага 3-га жніўня мінуўшага году Устаноўчым Соймам.

ШКОЛА ў ЮГАНІШКАХ. У Юган—Посвольскім павеце знаходзіцца нізшая сельска—гаспадарчая школа. Ужо другі месяц, як у ёй распачаліся заняцьця. Пасяшчаюць школу 25 слухачоў ва ўзросьце да 20 гадоў: 14 хлапцоў і 11 дзяўчат. Хаця і невялікі іх лік і апрыч таго, што некаторыя з іх слаба падгатованы, але, маючы многа ўласнай ахвоты і паняцьце аб гэтай навуцэ, уступіўшы да школы, вучацца добра.

Напрыклад, са Жмудзі 29 гадовы мужчына, аддаўшы часова сваю гаспадарку ў апеку брату, прыбыў да школы, каб набыць знаньня, патрэбныя для земляробаў. Некаторыя з бацькоў, аддаючы сваіх сыноў і дачок да школы, заяўлялі: „Я адзін стары застаюся ў хаце, астагняга сына пасылаю да сельска—гаспадарчай школы, абы ён толькі вышоў добрым і абаротным гаспадаром.“ Адным словам, ў гэтай акалічнасьці гаспадары даволі добра разумеюць надобнасьць сельска-гаспадарскіх школ. 23 кастрычніка прошлага году з'езд Пасвольскага павету зажадаў, каб у гэтым гаду залажыць аж дзьве ніжэйшыя школы: у Біржах і Юганішках. Але с поваду браку сьродкаў адчыненьне сельска-гаспадарскай школы ў Біржах адложана на будучы час.

І. Даладка, кіраўнік сельска-гаспадарскай школы ў Юганішках.

# У павеце Посволі - Біржы.

У павеце Посволі—Біржы каморнікі ўжо распарцэлявалі 11 маёнткаў. Распарцэляваная зямля падзелена паміж вайсковымі, назовы каторых, з браку месца, ня можам тут прывесьць. Галоўная Камісія „Надзелу Зямлі вайсковым“ пастанавіла ўзяць дзеля парцэляцыі некалькі маёнткаў Альфрэда Тышкевіча і іншых абшарнікаў.

# З Вільні.

У Вільні ў сучасны момант пануюць палякі, на чале каторых стаў авантурыст гэнэрал Желігоўскі.

Ён надта безпакоіцца і ўсё думае, якім спасабам найхутчэй спольшчыць жыхароў Віленшчыны, як зьвіць там цёплае гняздо для Варшаўскіх палякаў.

У гэтай справе Желігоўскі хоча як найбарджэй каланізаваць зямлю, а падзеленую аддаць легіанерам, але толькі супраўдным палякам з Варшавы, Кракава, Познані, Галіцыі. Каб найхутчэй прыступіць да падзелу зямлі, Желігоўскі склікае каморнікаў і навет вучняў, каторыя што небудзь знаюць у памеры зямлі.

У Вільні праводзіцца срочная рэгістрацыя інжэнераў, каморнікаў і вучняў, слухачоў каморніцкіх курсаў, лясных, тэхнічных і ўсіх тых, каторыя маюць дачыненьне да інжэнерства і каморніцтва.

Таксама гуртуе работнікаў, сьпяшыць, працуе, і можа хутка наша зямля будзе падзелена паміж зусім чужымі нам людзьмі.

Сьвятым абавязкам кожнага жыхара Літвы—не дапусьціць, каб тая зямелька, якая ад вякоў належыць да нас, дасталася чужынцам. Для жыхароў нашага краю было-б вялікай крыўдай, каліб-б наша зямля была аддадзена каланістам с Познані, Кракава або з іншых чужых краёў.

Урад Літвы надзяляе зямлёю ня толькі літвіноў, а усіх жыхароў Літвы бяз рожніцы народавасьці, веры, поглядаў, ставячы на першы план бедных, беззямельных і малазямельных.

# ЗАПЫТАНЬНІ і АДКАЗЫ.

**Адамукас з вёскі Вайдзгіры** піша, што бацька яго за часоў паншчыны быў выселены на самы канец двара, паміж багнамі, дзе яму дана 2 дзесяціны ўладаром азначанай зямлі. Да гэтай зямлі належыць каля 50 дзесяцін багнаў, якія ўладар у сучасны момант хоча прадаць.

Адамукас мае столькі грошай, што можа гэтыя багна, стаўшыя сенажацьцю, купіць. Ен просіць аб парадзе, што яму рабіць, бо заможнейшыя гаспадары, купіўшы гэту сенажаць, адбяруць ад яго 2 дзесяціны, і ён, дзякуючы гэтаму, будзе прымушан уцекаць з гаспадаркі.

ПАРАДА: Паводле распараджэньня ад 18 чэрвеня 1920 году пад назовай „зямля, набыцьцё і аддача зямлі“, параграф 1-ы якога гласіць, што земляўласьнік, маючы болей 70 дзесяцін, ня мае права прадаваць сваей зямлі без дазваленьня спецыяльнай камісіі, утворанай Міністэрствам Земляробства і Дзяржаўнай Маемасьці, пры чым ён можа атрымаць дазваленьне на прадажу ня болей дзясятай часьці агульнага абшару сваей уласнасьці, а усяго ня звыш 100 дзесяцін. Значэ, калі земляўласьнік мае 400 дзесяцін, то можа прадаць 40 дзесяц. і то толькі з дазволу Міністэрства.

Згодна вышэйсказанага распараджэньня ўвага III да параграфу другога гласіць, што зямля найперш павінна прадавацца парабкам гэтага двара і жывучым у паблізы беззямельным і малазямельным.

Апрыч таго, можна набыць столькі, каб разам с тою зямлёй, якая ўжо ёсьць, усяго было ня болей 20 дзесяцін.

Значэ, уладар двара ня мае права прадаць свае зямлі заможнейшым гаспадаром, мінаючы дворных парабкоў і акалічных беззямельных і малазямельных жыхароў.

Калі ў сучасны момант, ня маючы грошай, ня можаце зямлі дакупіць, трэба пачакаць вам агульнай зямельнай рэформы.

Зразумела, уласьнік двара можа прабаваць рабіць прадажу зямлі заможнейшым гаспадаром, не прыстасоўваючыся да ўказанай уставы, і такім чынам мінаць распараджэньне.

Але, купляючы па актам, зложаным хатнім спосабам, як некаторыя пробуюць рабіць, здаючы ў арэнду на доўгі час, у канцы, па праведзеньні зямельнай рэформы, можа панясьці страты сам купляючы зямлю, бо такая пакупка ці арэнда ня будзе прызнана законамі і ў такі спосаб прашахрованая ўласьнікам двара зямлю будзе адабрана, як належачая да ўсяе дворнае зямлі.

І можа панесьць страты ня толькі ўласьнік двара, але і той гаспадар, які купіў зямлю не па закону. У тым самым распараджэньні параграф 8 кажа, што ўсе акты аб прадажы зямлі, зложаныя без выкананьня гэтага распараджэньня, неправільныя і неправамочныя, а тыя, што пашлі проці закону (ўласьнік маётнку і пакупшчык), будуць пакараны турмою ад 2 да 12 месяцаў або грашовым штрафам ад 30.000 да 50.000 марак.

**Язэп М. з вёскі Вайнюны** піша, што ён мае вялікую сямью (8 душ), а зямлі толькі 6 маргоў. Да яго зямлі падыходзіць 10 марговае поле. Уласнікамі гэтага поля з'яўляюцца пяць братоў, з якіх чатыры выехалі да Амэрыкі, а пяты—кравец жыве ў мястэчку і мае там свой дом. Язэп М. вельмі хоча гэтыя 10 маргоў купіць, але ўласьнік зямлі не прадае: „хочаш--кажа--здаць у арэнду табе магу, але не прадам“. Язэп М. просіць аб парадзе, куды яму звярнуцца, каб прымусіць уласьніка да прадажы яму гэтай зямлі, бо яго сямейнае становішча вымагае больш зямлі, чым гэты кравец і яго браты ў Амэрыцэ.

**Раз'ясьненьне.** Вы, як беззямельны і з большаю сямьёй, маеце поўнае права, па правядзеньні агульнай зямельнай рэформы, набыць патрэбную Вам зямлю з грунтоў, якія пры гэтым напэўна будуць узяты ад уладароў вялікіхъ двароў.

Аднак права адабраньня зямлі для надзелу беззямельных і малазямельных ня можа датыкацца тых уласьнікаў, якія маюць зусім мала зямлі, як напрыклад Ваш сусед-кравец.

Дапусьцім, што гэтага краўца можна прымусіць прадаць Вам 10 маргоў зямлі толькі дзеля таго, што Вы больш нуждаецеся, чым ён, але гэта значыла-бы, што другі сусед, які мае яшчэ большую сямью і яшчэ меней зямлі, меў-бы права купіць ад Вас з малога кавалка зямлі, колькі яму бракуе.

**Ардынарнік Андрэй А. з Маёнтку Кірбіль піша:** „Хачу мэць кавалак зямлі, але ня знаю, ці можна купіць і ці трэба купляць? Адны говораць—ня купляй, Урад будзе дзяліць двары, так і ты дарма атрымаеш; другія дурнямі іх называюць і гавораць: какі маеш грошы, не чакай, каб табе смажаныя галубкі самі ўляцелі ў рот; глядзі, колькі ёсьць бедных, каторыя ня маюць за што купіць для сябе зямлі,—хай Урад патрапіць гэтых надзяліць; ты маеш трохі грошай, і сын табе з Амэрыкі можа прысылаць. Слухай, устыдайся з працягнутаю рукой і высуняным языкам чакаць дапамогі.

Гаворань, што калі і купіш з апушчанага маёнтку, то прыдзе чарга на падзел двара, у якім жывеш,—кавалак твой будзе ўжо апрацованы, угноены і засеяны, ня горшы за дворнае поле. Будучы самадзельным гаспадаром, угнойваючы і выраблюючы адлогі зямлі, зробіш сабе вялікую карысьць і ўслужыш цэламу краю.

Памятай, што ўладар маёнтку, у якім ты жывеш, ралію даглядае добра, і гэты двор, зразумелая рэч, будзе падзелены некалькі пазьней, то табе і чакаць надаесьць. А час уцякае, зьмяняецца, а ты старэеш.

Пры такім палажэньні справы Андрэй А. просіць даць яму параду, як яму паступіць, каб было лепей, і ці можа ён купіць зямлю.

**Адказ:** Многа праўды ў словах, сказаных другімі, хаця і першыя часткаю правы. Ведама, што калі хто беззямельны, малазямельны, без дапамогі Ураду не абстроіцца. Ураду астанецца думаць толькі аб іншых, каторыя чакаюць яго дапамогі. А таму, хто можа палегчыць Ураду ў працы, хай палягчае. Купляючы або таргуючы зямлю, трэба ведаць, што купляецца. Уладар маёнтку, паводле закону, выданага 28 чэрвеня прошлага году праз Устаноўчы Сойм, можа прадаць толькі

дзясятую часьць сваей зямлі і аднака-ж ня болей 100 дзесяцін; зямлі гэтай ён ня можа прадаць без дазваленьня Міністэрства Земляробства і Дзяржаўнай Маемасьці. Купляць можа ня болей 20 дзесяцін кожны ўзрослы жыхар або жыхарка.

Калі зямля, якую хочаце купіць, здана ў арэнду беззямельнаму, і ён арэндуе толькі 20 дзесяцін, то ўладар маёнтку павінен запытаць арэндатара, ці ня хоча ён купіць яе, іначай ня мае права прадаваць. Калі такі арэндатар адмовіцца ад пакупкі і арэнды, то ўладар можа прадаць зямлю каму іншаму. Просячы дазваленьня на прадажу зямлі, уладар павінен злажыць просьбу, напісаўйшы ў адпаведальнай форме, да Міністэрства Земляробства і Дзяржаўнай Маемасьці і дадаць дакумэнты на сваю зямлю, план прадаваемай зямлі і толькі па атрыманьні дазваленьня можа пісаць купчую крэпасьць у натарыуса. А дагаварыцца аб варунках пакупкі можа кожын загадзя.

На вашу несьвядомасць, на якіх варунках будзе дзяліцца дворная зямля, трудна былоб-б у нямногіх словах адказаць і таму гэтага пытаньня не чапаю. Пытаньне гэта можа быць развязана лепей пачуцьцём душы незапсаванага чэлавека, ніж рожнымі гутаркамі. Справедлівы чэлавек у глыбіне сваей душы чуе, што добра, а што дрэнна, што справедліва, а што не.